Грамадскае незалежнае выданне, выходзіць са студзеня 1997 года

ІВАЦЭВІЧЫ–БАРАНАВІЧЫ–БЯРОЗА

# Газета для вас

19 ліпеня 1997 года

СУБОТА

№ 33

Наш індэкс 63834

Цана па падпісцы – 750 руб.
Цана ў розніцу – 1.000 руб.

## ЧАС МЯСЦОВЫ

### Калі добра пакруціцца

**БАРАНАВІЧЫ.** Рамонтна-механічны завод, які выконваў заказы на выраб нестандартызаванага абсталявання для прадпрыемстваў харчовай прамысловасці, як і яго партнёры па галіне, у гады сумнавядомай перабудовы лёг на лапаткі. Змянілася кіраўніцтва. Новыя дзелавыя людзі пачалі круціцца. І прадпрыемства пайшло ўгору. Сакрэт просты. Заказы харчавікоў – гэта 30 працэнтаў магутнасці. Астатнюю дазагрузку робяць за кошт заказаў збоку: калектыў вырабляе абсталяванне для камунальнікаў, будаўнікоў, калгасаў і саўгасаў. На пошук заказаў любой складанасці нацэлен кожны інжынер і рабочы. За гэта яны атрымліваюць грашовае заахвочванне.

● НАПЕРАКОР СТЫХІІ



*НА ЗДЫМКУ: трактарыст Калінінскага лясніцтва Мікалай Платонавіч Чуйко – адзін са шматлікіх удзельнікаў ліквідацыі наступстваў урагану на Целяханшчыне.*

*Фота А. ГАНЧУКА.*

XXX

*Усяго сем мінут бушавала на прасцягах Целяхан і навакольля стыхія. Цыклон, які выклікаў гэты разгул урагану, нарадзіўся пад Львовам і з хуткасцю кур'ерскага цягніка (150 км у гадзіну) наляцеў на Целяханшчыну з суседняй Валыні, а потым пайшоў у бок Міншчыны, дзе нарабіў яшчэ больш бяды, чым у нас.*

**(Матэрыял пра аднаўленчыя работы, якія вядуцца на Целяханшчыне пасля ўрагану, чытайце на 2-й стар.).**

### У. Карвату. Герою і чалавеку

**БАРАНАВІЧЫ.** Летась лётчык Уладзімір Карват не вярнуўся са свайго апошняга палёту ў мірным небе. Цаной свайго жыцця ён адвёў палаючы самалёт ад вёскі Арабаўшчына. За мужнасць і адвагу У. Карвату пасмяротна прысвоена званне Героя Беларусі.

Увекавечана памяць аб лётчыку і ў горадзе. Рашэннем гарвыканкама пешаходная частка ля возера ў Паўночным мікраёне названа ў гонар героя – бульварам Карвата.

### Бег Міру-97

**ІВАЦЭВІЧЫ.** Гэта – міратворчая акцыя, якая павінна натхніць народныя масы на занятак спортам, вядзенне актыўнага ладу жыцця.

У мінулы аўторак 22-х удзельнікаў бегу на вуліцы Леніна сустракала радкаватая кучка гарадскіх разявак. Наперадзе каманды – бягун з факелам, запаленым на мяжы з Літвой. Бегуны спыніліся ля гасцініцы, тут ім уручылі хлеб-соль, а яны ў сваю чаргу раздавалі ўлёткі пра сваю акцыю.

Удзельнікі бегу павячэралі ў рэстаране, пераначавалі ў горадзе і раніцай падаліся ў бок Бярозы. Бяжыце на здароўе!

Бег Міру-97 закончыцца для нашых спартсменаў на граніцы з Польшчай. Там адбудзецца ўрачыстае ўручэнне запаленага факела польскім бегунам.

### Рабаўнікі злоўлены

**ІВАЦЭВІЧЫ.** 16 ліпеня ў ноль гадзін 30 мінут на вуліцы Пралетарскай райцэнтра на жанчыну П., якая ішла з працы, напалі двое мужчын, забралі больш за мільён рублёў і залатыя завушніцы. Пры атрыманні сігнала была паднята аператыўная група райаддзела міліцыі на чале з начальнікам крымінальнага вышуку А. І. Глушэнем.

Пад раніцу рабаўнікі былі злоўлены. Адзін з іх В. В. Бобыраў, 1976 года нараджэння, жыхар вёскі Стайкі, раней судзімы за крадзяжы, угоны машын. Асоба другога рабаўніка ўстанаўліваецца, ён назваўся жыхаром Мінска.

● ПА-СУСЕДСКУ МЫ ЖЫВЁМ

## ДЗЕНЬ ЗА ДНЁМ

### „МАРЫЛЮ" ДЫПЛОМ НЕ САПСУЕ

**ІВАНАВА.** Імя Марыля старажытныя славяне ўжывалі ў значэнні „любая", „жаданая". Гэты ж эпітэт з аднолькавым поспехам можна сёння адрасаваць і мінеральнай вадзе „Марыля", якую выпускае аднайменнае вытворча-гандлёвае кааператыўнае прадпрыемства. Цудоўная якасць прадукцыі заўважана не вельмі даўно і на прайшоўшай у Мінску выставе мінеральных водаў і лекавых гразяў „Марыля" адзначана дыпломам пераможцы.

За год народныя масы выпіваюць больш за мільён бутэлек гэтага смачнага, ахаладжальнага і карыснага (асабліва для дыябетыкаў, тых, хто пакутуе на хваробы печані, мочапалавой сістэмы, каліты) напою. Каб колькасць спажыўцоў „любай" і „жаданай" расло і далей, у хуткім часе плануецца мінеральную ваду разліваць у больш зручную тару – паўтара-і двухлітровыя поліэтыленавыя бутэлькі.

### І БОЛЕЙ ЗА ВЕК ДОЎЖЫЦЦА ЖЫЦЦЁ

**ЛЯХАВІЧЫ.** Літва – звычайная вёска, якіх дзесяткі ў раёне. Незвычайным з'яўляецца хіба тое, што ў ёй жыве нямала людзей, якія перасягнулі стагоддзе. У 110-гадовым узросце разам са сваімі дзецьмі, унукамі і праўнукамі адзначыў юбілей Сцяпан Фаміч Бубен. Толькі на 3–4 гады маладзейшыя за яго В. В. Марчык, І. В. Равінскі, Я. С. Бубен і Ю. М. Марчык. Набліжаюцца да ўнушальнай круглай даты яшчэ пяць жыхароў гэтай палескай вёскі.

Многія яе доўгажыхары яшчэ самі апрацоўваюць свае агароды, даглядаюць свойскую жывёлу.

### СТАРАЯ БАЛЬНІЦА ЗАЎСЁДЫ МАЛАДАЯ

**ПРУЖАНЫ.** Гісторыя, на жаль, не захавала імя пана з Ружан, які ў 1872 годзе ў сваім маёнтку адкрыў бальнічку. Налічвалася ў ёй аж тры ложкі, якія абслугоўваў земскі доктар. Тут жа ён вёў прыём хворых, што прыходзілі з навакольных вёсак. Напярэдадні другой сусветнай вайны ў бальніцы, разлічанай на 25 ложкаў, працавалі адзін урач і 10 медсясцёр.

Цяпер Ружанская бальніца, адзначыўшая сваё 125-годдзе, мае тэрапеўтычнае, неўралагічнае, хірургічнае, дзіцячае, радзільнае і гінекалагічнае аддзяленні. За год у яе сценах аказваюць дапамогу 3 тысячам вяскоўцаў. У паліклініцы 11 спецыялістаў прымаюць за год у сярэднім 40–45 тысяч чалавек.

У сувязі з юбілеем прэзідыум абласнога Савета дэпутатаў узнагародзіў калектыў бальніцы Ганаровай граматай.

### ХОЦЬ І НЕ Ў ПРЫЗЁРАХ, АЛЕ ПАДЗЯКУ ЗАСЛУЖЫЛІ

**ПІНСК.** На праведзеным тут чэмпіянаце Еўропы па матаболу наша зборная заняла чацвёртае месца. У барацьбе за „бронзу" яна прайграла камандзе Германіі з лікам 2:3. Аднак у цэлым арганізатары спаборніцтваў, сярод якіх былі дзяржаўныя і камерцыйныя структуры, атрымалі ад гасцей найвышэйшую ацэнку. За шэсць дзён турніру, у якім бралі ўдзел спартсмены сямі краін, на мясцовым стадыёне, што належыць Беларускаму абароннаму спартыўна-тэхнічнаму таварыству, пабывала больш як 70 тысяч балельшчыкаў.

Пераможцамі чэмпіянату сталі расіяне, другое і трэцяе месцы занялі каманды Францыі і Германіі.

### УСЯ ГІСТОРЫЯ РАЁНА Ў „ПАМЯЦІ"

**ДРАГІЧЫН.** Пяць тысяч экзэмпляраў кнігі „Памяць", прысвечанай Драгіншчыне, завезены ў раён са сталіцы Беларусі. Створана аб'ёмістая гісторыка-дакументальная хроніка, заснаваная на навуковых даследаваннях, дакументах, успамінах удзельнікаў гістарычных падзей.

### ЖУДАСНАЯ СМЕРЦЬ ПЕНСІЯНЕРКІ

**СЛОНІМ.** На ўласнай кухні гарадской кватэры бабуля рыхтавала вячэру і запаліла газ, успыхнула полымя. Спачатку загарэўся яе фартух, валасы, потым агонь ахапіў усю жанчыну. На яе крык прыбег з агарода муж, але ён ужо не змог дапамагчы жонцы. Мужчына толькі паспеў пазрываць рэшткі абгарэлага адзення.

Апёкі былі жудасныя. Праз некалькі гадзінаў пенсіянерка памерла ў раённай бальніцы.

**(Па матэрыялах беларускіх газет).**

### Селец не горшы за Мінск

**БЯРОЗА.** Услед за Мінскам, які адзначыў шумна і з раскошай 930-годдзе, сваё 600-годдзе адсвяткавала 12 ліпеня сяло Селец Бярозаўскага раёна. Хаця Селец з Мінскам, вядома, не параўнаеш, святкаванне тым не менш было таксама наладжана па сталічнаму ўзору. Папярэдне былі праведзены традыцыйныя ў такім выпадку мерапрыемствы па добраўпарадкаванню, на ўездзе ў сяло (яно знаходзіцца ў шасці кіламетрах ад Бярозы) устаноўлена маляўнічае пано, а ў парку – памятны знак у гонар знакамітай даты.

На святкаванне было запрошана шмат гасцей, у асноўным з ліку знакамітых аднасяльчан і раённага начальства. Ім, а таксама ўсім сяльчанам, хто пажадаў прыняць удзел ва ўрачыстасці, было расказана пра мінуўшчыну Сельца, якое стала сялом толькі ў гэтым стагоддзі, а раней насіла назву мястэчка і карысталася правамі горада, бо тут былі яго абавязковыя прыкметы – карчма, кірмаш, царква і касцёл. Сяло мае сапраўды выдатную гісторыю; у часы Вялікага Княства Літоўскага тут гаспадарыў князь Вітаўт, які шмат зрабіў для развіцця гэтага населенага пункта.

У гады Вялікай Айчыннай вайны 117 сяльчан загінулі на франтах баёў з фашыстамі.

У 1949 годзе ў сяле быў створаны калгас, які цяпер перажывае фінансавыя і эканамічныя цяжкасці.

Ганарыцца Селец людзьмі, якія тут нарадзіліся, выраслі, пайшлі ў вялікі свет. Гэта – вядомы драматург Мікола Арахоўскі, пісьменнік Віктар Супрунчук, паэт Алесь Разанаў, прадпрымальнік Мікалай Гаварко. Апошні, дарэчы, да свята прэзентаваў мясцовай школе на яе патрэбы 350 мільёнаў рублёў.

Госці Сельца дарылі на свята ў асноўным карціны, якія ад імя сяльчан прымала старшыня мясцовага сельсавета М. Шкабара. У адказ і ў гонар знакамітай даты прысутным дарылі гадзіннікі з гербам Сельца, якія напярэдадні заказалі на Пінскім „Камертоне". У ліку атрымаўшых гадзіннікі былі намеснік старшыні Бярозаўскага райвыканкама І. Юшкевіч, старшыня райсавета А. Кунцэвіч, рэдактар бярозаўскай раёнкі Я. Сяленя, прадстаўнік вайсковай часці... Ніводны з простых людзей Сельца – ні трактарыст, ні даярка, ні ветэран, ні медык, ні настаўнік – гонару быць узнагароджанымі гадзіннікамі не ўдастоіліся.

Неафіцыйная частка святкавання працягвалася за раскошнымі сталамі ў сталовай аздараўленчага лагера „Бярозка". Гулянне ўдалося на славу!

### Свята сям'і

арганізавала і правяла Івацэвіцкая царква „Рождества Христова". Удзел у вячэрыне бралі як веруючыя, так і няверуючыя жыхары горада Івацэвічы.

Людзі прыйшлі на свята разам з дзецьмі і за кубкам чаю павялі размову аб высокім прызначэнні сям'і, яе трываласці і надзейнасці. Яны ахвотна паўдзельнічалі ў віктарыне, гульнях, чыталі вершы, спявалі песні. Радасць ад чалавечых зносін, пазбаўленых ілжы і гарэлкі (апошняя, на жаль, цяпер стала атрыбутам многіх масавых мерапрыемстваў свецкага характару), звязілася на тварах удзельнікаў свята...

**Як ўжо пісала наша газета, ураган, які пранёсся над паўднёвай часткай Івацэвіцкага раёна, нарабіў шмат бяды: знесены дахі пабудоў, разбурана дашчэнту некалькі грамадскіх будынкаў, павалены тысячы гектараў лесу... Нашы карэспандэнты пабывалі на месцах і пацікавіліся, як ідуць аднаўленчыя работы, што ўжо зроблена па ліквідацыі вынікаў стыхіі.**

● *НАПЕРАКОР СТЫХІІ*

# ПАСЛЯ ЎРАГАНУ

### ВУЛЬКА ЦЕЛЯХАНСКАЯ

У самой вёсцы ўсе дахі дамоў вяскоўцаў, знесеныя або пашкоджаныя ўраганам, адрамантаваны. Шыфер, цвікі былі пастаўлены праз Целяханскае сельпо. На рамонце працавалі самі жыхары, а адзінокім пенсіянерам дапамог калгас імя Куйбышава – пастараліся калгасныя будаўнікі. Ва ўсіх дамах ёсць электрычнасць, а вось радыё пакуль што не гаворыць.

Больш клопатаў у самой гаспадарцы. Нанесены значны ўрон жывёлагадоўчым памяшканням. Два будынкі, як тут кажуць, старой фермы разбураны поўнасцю і аднаўляць тут няма чаго. Дарэчы, гэтыя будынкі не так даўно рэканструявалі – вось не пашанцавала. Затое пашанцавала жывёле, якая тут стаяла на адкорме. Усе бычкі (а іх было 240) засталіся жывыя, толькі аднаму нагу зламала. Тут сапраўды рэканструкцыя дапамагла, бо дах і столь павіслі на жалезнай агароджы і водаправодных трубах.

І на жывёлагадоўчым комплексе ў гэтай вёсцы бяды многа нарабілася. Усе шэсць будынкаў фермы, а таксама сенасховішча раскрыў ураган, шыфер сарваў і патрушчыў на дробныя кавалкі. Шкла ў вокнах таксама не стала.

Што ж зараз тут робіцца?

Старшыня праўлення калгаса імя Куйбышава І. А. Марчук, якога мы сустрэлі на комплексе, расказаў наступнае:

– З першых дзён пасля ўрагану мы прыступілі да рамонтных работ. Непасрэдна для крыцця дахаў маем дзве брыгады: адну стварылі са сваіх людзей (аграном, асемянатар, заатэхнік і г. д.), а другая прыехала на дапамогу з Украіны. Работа не спыняецца, бо ўсе матэрыялы ёсць. Дзяржава выдзеліла без перадаплаты больш як восем тысяч лістоў шыферу. Палову яго ўжо завезлі з Ваўкавыска ў гаспадарку. Выдзелена нам тысяча кубаметраў драўніны, з таго лесу, што паваліла ветрам. На нарыхтоўцы і вывазцы яго працуе калгасная будаўнічая брыгада. На дзвюх нашых пілarамах робім распілоўку і патрэбны матэрыял (дошкі, брусы), дастаўляем на месца рамонту. Па стану на 10 ліпеня дахі на трох будынках накрыты. Мяркуем да першага жніўня справіцца з астатняй работай...

Аднак гаварыць з такім аптымізмам пра ўсе аднаўленчыя работы не прыходзіцца. Здалёк відаць, што дахі будынкаў школы і сталовай патрабуюць рамонту, хоць і невялікага. Гэта, трэба падкрэсліць, не дробязь, калі ўлічыць, што бесперапынна льюць дажджы і ўрон з кожным днём наносіцца ўсё большы. А сустрэцца з кімсьці з работнікаў школы не ўдалося, бо апоўдні тут нікога не было. Няўжо і ў справе ліквідацыі вынікаў стыхійнага бедства школа застаецца на пазіцыях „рэшткавага" прынцыпу?

### САНАТОРЫЙ „ПАЛЕССЕ"

У маляўнічым месцы размясціўся санаторый – у сасновым бары непадалёк ад Вулькацеляханскага возера. Але месца гэтага не пазнаць. Ад большасці соснаў засталіся тырчаць ражны. Наводзіць тут парадак трэба хутчэй, бо ўжо чакаецца заезд дзяцей з чарнобыльскай зоны.

Сувязь тут адноўлена. Электралінію тэрмінова таксама адрамантавалі. Засталося распілаваць і вывезці лесапавал.

Гутарым з загадчыцай медаддзялення санаторыя Рэгінай Генрыхаўнай Саўчук. Галоўны ўрач у той дзень быў у ад'ездзе.

– Што нас зараз хвалюе? – пачала з пытання Р. Г. Саўчук. – Радыё пакуль што ў нас маўчыць. Сказалі сувязісты, што не хутка адновяць. Расчыстку і распілоўку драўніны робіць наша брыгада на чале з інжынерам – будаўніком Ю. Л. Сачкоўскім.

Як растлумачыў нам інжынер, у іхняй брыгадзе пяць чалавек, ёсць дзве бензапілы. Па дамоўленасці з кіраўніцтвам Целяханскага лясгаса ўся драўніна з тэрыторыі санаторыя, нарыхтаваная самімі работнікамі, будзе прададзена ім жа – дровы па пяць тысяч рублёў за складаметр, дзелавая драўніна – 40 тысяч рублёў за складаметр. Гэта, вядома, будзе стымуляваць працу членаў брыгады. Але хвалюе тое, што адна брыгада не справіцца з вялікім аб'ёмам работы... Завалы ў лесе ля санаторыя, дзе мяркуецца знаходжанне дзяцей, небяспечны магчымымі траўмамі.

### ЦЕЛЯХАНСКІ ЛЯСГАС

Інжынер па лесакарыстанню лясгаса Генрых Францавіч Трэймак, гаворачы пра вынікі ўрагану, назваў некаторыя лічбы. Так, моцна пашкоджана або павалена прыкладна 3130 гектараў лесу. Урон, нанесены гаспадарцы, складае не менш за 15 мільярдаў рублёў. Лясгасу трэба выканаць вялікі аб'ём работы. Таму на дапамогу прыйшлі суседзі – усяго 124 чалавекі з Брэсцкага, Пінскага, Бярозаўскага і Драгічынскага раёнаў. З іх сфарміравана 27 брыгад. З самога лясгаса па ліквідацыі наступстваў урагану працуе 110 чалавек, або 22 брыгады. Яшчэ пяць брыгад (а гэта 28 чалавек) прыслалі на дапамогу розныя арганізацыі Івацэвіцкага раёна. Калі параўнаць з Бярозаўскім раёнам, адкуль працуе 90 чалавек, то гэтага яўна мала.

– Прэзідэнт, які пабываў у Целяханах,– гаворыць Г. Ф. Трэймак, – паставіў перад намі задачу: да першага лістапада расчысціць лесапавал, вывезці драўніну і пасадзіць лес...

Гм, ставіць задачу, напэўна, лягчэй, чым яе выконваць. Але субяседнікі лічаць за лепшае не гаварыць аб нерэальнасці пастаўленай задачы.

Каб справіцца з вялікім аб'ёмам работы, а па папярэдніх падліках неабходна нарыхтаваць і вывезці каля 300 тысяч кубаметраў драўніны, трэба вельмі напружана працаваць. Такая работа ўжо ідзе. Па стану на 10 ліпеня распрацавана 102 гектары, нарыхтавана 2900 кубаметраў драўніны.

Мы наведалі лясны масіў паблізу санаторыя „Палессе". Тут працавалі тры брыгады – дзве з Калінінскага і адна з Вулькацеляханскага лясніцтваў.

Так, у брыгадзе Сергея Корзана з Калінінскага лясніцтва тры чалавекі: бензапільшчык (сам брыгадзір), трактарыст і рабочы. На гэтым участку яны працуюць толькі другі дзень, але ўжо нарыхтавалі некалькі штабеляў драўніны.

### ЦЕЛЯХАНЫ

У Целяханах ураган пашкодзіў 875 гаспадарчых пабудоў, 1308 жылых дамоў, 22 з іх разбураны поўнасцю або напалову.

Аб гэтым нам паведаміла старшыня выканкама пасялковага Савета Святлана Андрэеўна Крэк. Спачатку, як падкрэсліла старшыня, усе сілы былі накіраваны на аднаўленне жылля. Па стану на 10 ліпеня асноўная частка дамоў адрамантавана (як бы ні стараліся целяханцы, а да 3 ліпеня, як загадваў А. Р. Лукашэнка, з такім аб'ёмам работы справіцца было немагчыма). Шыфер і іншыя будаўнічыя матэрыялы выдзелены пацярпелым бясплатна. У асноўным жыхары самі займаліся рамонтам. Дамы адзінокім грамадзянам рамантавалі брыгады будаўнікоў з розных арганізацый.

За гэты час целяханцамі ўжо атрымана будаўнічых матэрыялаў больш як на пяць мільярдаў рублёў. Будаўнікам, што працавалі на аднаўленні жылля, трэба выплаціць 7,5 мільярда рублёў.

Засталіся неадноўленымі камунальнае жыллё і вытворчы сектар. Тут яшчэ шмат рамонтных работ.

Ходам ліквідацыі наступстваў стыхіі цікавяцца кіраўнікі розных рангаў. Пабываў тут прэзідэнт рэспублікі А. Р. Лукашэнка, старшыня аблвыканкама У. А. Заламай, міністр па надзвычайных сітуацыях Рэспублікі Беларусь І. Кенік.

– Карыстаючыся выпадкам, – сказала на развітанне Святлана Андрэеўна Крэк, – хачу праз газету падзякаваць усім, хто не пакінуў у бядзе пацярпелых ад урагану. Уся Беларусь дапамагала нам. Аднак для поўнага аднаўлення патрэбна яшчэ шмат сродкаў і сіл...

**С. КАЖАДУБ,**
**А. ШЫЛА.**









*НА ЗДЫМКАХ:*
*ідзе пакрыццё даху кароўніка на жывёлагадоўчым комплексе ў Вульцы Целяханскай;*
*вось што засталося ад жывёлагадоўчай фермы ў Вульцы Целяханскай;*
*не пашкадаваў ураган старога крыжа на перакрыжаванні вуліц у Вульцы Целяханскай;*
*так выглядае пасля ўрагану лясны масіў ля санаторыя „Палессе".*
*Фота А. ГАНЧУКА.*

● БИБЛИЮ ЧИТАЕМ ВМЕСТЕ

# КОГДА ГНЕТЁТ СМЕРТЕЛЬНАЯ ТОСКА

(Продолжение. Начало в №№ 3 – 31).

Человек, приговоренный к смертной казни, испытывает ничем неизмеримые душевные страдания. Некоторые люди, находясь в предверии смерти, полностью седеют, другие в считанные часы или дни неузнаваемо стареют, третьи сходят с ума.

Что же делал Иисус в ожидании ужасных пыток и последующей за ними смерти?

Евангелие повествует, что вместе с учениками Он пошел в сад Гефсимания. Это было место Его молитвы и тихих бесед с друзьями. Наступала ночь, а за ней надвигался день страшной казни Сына Божьего. Он имел человеческую плоть. Он испытывал такие же чувства, как обыкновенный человек. Поэтому Ему хотелось быть рядом с самыми близкими людьми. Иисус взял Петра, Иоанна и Иакова, отошел вместе с ними в сторону и начал скорбеть и тосковать.

Перед Ним предстала картина неправедных обвинений в Его адрес, поругания, бичевания и распятия. Трудно представить себе, что это происходит с кем-то, но когда это должно произойти с тобою – это ужасно. Своими внутренними переживаниями Христос делился с учениками, говоря: „Душа Моя скорбит смертельно: побудьте здесь и бодрствуйте со Мною". Другими словами, Он просил их поддержки, может быть молчаливого сострадания или ободрения одним только словом. Как хочется умирающему человеку, чтобы к нему хоть кто-то прикоснулся, подержал за руку, помолился.

Помню один из скорбных моментов моей жизни, когда с группой молодежи мы сидели у одра умирающего юноши. Он хотел жить. Его немногочисленные дни были потрачены напрасно. Во время болезни он покаялся и просил Его об исцелении. Об этом молилась молодежь. Но юноша на глазах угасал. Ему трудно было говорить, не хватало воздуха. Молодежь в полголоса запела песню на слова Лермонтова „В минуту жизни трудную". Губы умирающего зашевелились, и он начал подпевать. Ему нужна была поддержка. Его лицо на некоторое мгновение успокоилось, просветлело.

Иисус тоже нуждался в простой человеческой поддержке. У Него была смертельная скорбь. И что же ученики? Они уснули. Христос молится. У Него выступают из лица и падают на землю капли пота как капли крови, а друзья равнодушно спят.

Но что делаем мы, когда наши братья и сестры находятся в больших переживаниях, трудностях, смертельных скорбях? Открыто ли наше сердце и наши очи на их горе? Сопереживаем ли или же нам все равно, мы закрываем равнодушно глаза и не принимаем участия в их скорбях? Христос призывает учеников побыть с Ним, бодрствовать и молиться. Вспомним же всех скорбящих, побудем с ними, подкрепляя их в трудную минуту жизни.

С другой стороны, может быть ты, дорогой читатель, находишься в скорбях. Твое горе захлестывает все твои чувства и не с кем разделить. Ты одинок. Вспомни Христа! Он пережил одиночество в самые трудные минуты Своей земной жизни. Иисус просил учеников побыть с Ним и пободрствовать, но они отвернулись от Его горя и уснули. Он скорбел и тосковал, а они сладко спали. Может быть, ты тоскуешь и скорбишь темными ночами, может быть, некому тебе подать стакан холодной воды. Не отчаивайся. Давай посмотрим, что сделал Христос, когда остался одиноким. Он, находясь в Гефсимании среди ночи, обратился к Отцу Небесному. И Бог послал Ангела Своего, и тот подкрепил Иисуса в смертельной тоске. Невидимый небесный свет среди земного мрака стал изливаться в душу Страдальца-Христа. И Он встал, укрепленный небом, и смело шагнул навстречу Своим врагам и Своей смерти. Он был полон решимости идти до конца, лишь бы прославить Бога Своей смертью и искупить грешников от пылающего ада.

Дорогой страдающий друг! Обратись и ты к Иисусу в своем одиночестве, в своих физических и душевных страданиях. Иисус, испытавший тяжелые душевные муки, Сам придет и поможет тебе в скорбях. Он обязательно услышит тебя и подкрепит тебя. Библия говорит, что Христос Сам претерпел, был искушен и может искушаемым помочь.

А может быть ты никогда не обращался к Иисусу и не знаешь как молиться. Тогда начни с Ним просто разговаривать так, как ты разговаривал в детстве с мамой. Начни говорить свои слова в ночную темноту, скажи Христу о своем горе и попроси Его помочь тебе. Знай, что Он услышит тебя, коснется твоего страдающего сердца и пошлет тебе утешение.

Господь, который перенес тяжелые муки и испытания, не останется равнодушным к твоей скорби и к твоему горю. Он обязательно поможет тебе пройти через скорби и трудности. Христос научит тебя умирать. Он даст тебе надежду, которая выше всех твоих потерь. Он даст тебе радость, которая выше всех твоих печалей и страданий. Он даст тебе счастье, которое не сможет вырвать из твоих рук даже меч грозной смерти. Он откроет тебе врата вышней небесной жизни.

**С любовью к Вам – священник Ивацевичской Церкви „Рождества Христова" КОНСТАНТИН.**

**(Продолжение следует).**

● БУДЗЬЦЕ ПРАДБАЧЛІВЫМІ

# ЛЕПШ ЗАСТРАХАВАЦЦА

**Падзеі чорнага панядзелка, калі над Целяханшчынай пранёсся ўраган, многіх – і службовых, і прыватных асобаў, засталі ўрасплох. Не таму толькі людзі не былі падрыхтаваны да бяды, што ўраганаў у нас (такой сілы) ніколі не было, а яшчэ і таму, што шмат маёмасці (і прыватнай, і калгаснай, і дзяржаўнай) не было застрахавана. Тыя ж, хто меў страхавыя дагаворы з Івацэвіцкім аддзяленнем Дзяржстраху, цяпер кампенсуюць (мо, у не такой меры, як хацелася б) свае страты.**

**Наш карэспандэнт сустрэўся з дырэктарам Івацэвіцкага аддзялення Дзяржстраху М. А. Таміловіч і задаў ёй некалькі пытанняў, якія датычаць выплаты кампенсацыі ўсім, хто пацярпеў ад урагану.**

**– Марыя Аляксандраўна, каму і як дапамагае Дзяржстрах?**

– Выплата грашовых кампенсацый ажыццяўляецца тым грамадзянам і гаспадаркам, якія мелі на момант урагану страхавыя полісы. На сённяшні дзень дапамогу атрымалі пацярпеўшыя ў Амяльнянскім, Гортальскім, Рэчкаўскім сельскіх Саветах. Рыхтуемся да выплаты Целяханскаму пассавету.

**– Адкуль бяруцца сродкі на выплату кампенсацый?**

– Выкарыстоўваем сродкі нашага аддзялення, а таксама сродкі рэзервнага фонду Дзяржстраху.

**– А сумы выплат вялікія?**

– Сумы розныя. Іх памер залежыць ад сумы, на якія былі заключаны страхавыя дагаворы. На цяперашні момант насельніцтву названых сельсаветаў ужо выплачана 976.440.000 руб.

**– Ну, а як з тымі, хто не застрахаваў сваё жыллё ці маёмасць?**

– На жаль, гэтым людзям страты, нанесеныя ўраганам, мы кампенсаваць не можам. У такое ж становішча трапілі і некаторыя гаспадаркі, дзе ёсць разбурэнні. Мы канстатуем, што цалкам ці часткова разбураны некаторыя будынкі ферм, цялятнікаў, моцна пашкоджаны пасевы ў калгасах „Расія", „Рассвет", імя Куйбышава, імя Мічурына. З-за адсутнасці сродкаў калгасы не застрахавалі асноўныя фонды, якія пацярпелі ў час урагану.

Бяда, бясспрэчна, вялікая. Але што ж зробіш – Дзяржстрах працуе з тым, хто мае страхавыя дагаворы.

**– А як вызначаліся памеры ўрону і памеры страхавых кампенсацый?**

– Складалася камісія з прадстаўнікоў дзяржстраху і выязджала на месца стыхійнага бедства. Кожны выпадак разглядаўся індывідуальна: улічваліся сумы страхавых полісаў, выяўляліся рэальныя памеры ўрону і падлічваліся сумы дапамогі ў залежнасці ад ступені нанесенай шкоды.

**– Што б Вы хацелі параіць чытачам газеты?**

– Я хацела б сказаць, што сапраўдны гаспадар думае не толькі пра сённяшні дзень, але жыве і будучым. Ніхто не ведае, што нас чакае заўтра. Таму разумна застрахаваць сваё жыллё, маёмасць, транспарт, жывёлу, каб потым, у выпадку няшчасця, не шкадаваць, а атрымаць ад нас дапамогу.

Яшчэ хацелася дадаць, што цяпер Дзяржстрах прадастаўляе некаторыя льготы тым, хто заключае дагаворы. Адна з іх заключаецца ў тым, што грамадзянін заключае дагавор на пэўную суму, а ўзносы можа выплачваць па частках на працягу трох месяцаў. Але Дзяржстрах ужо бярэ на сябе адказнасць з моманту ўнясення першай часткі ўзносу і заключэння поліса. Таму яшчэ раз нагадваю: Дзяржстрах – ваша абарона і дапамога.

**Інтэрв'ю ўзяў А. ШЫЛА.**

● ДЗЕЦІ І МЫ

# ТАННЕЙ ЗА ЎСЁ ВУЧЫЦЦА Ў ЧАЦВЁРТЫМ КЛАСЕ

Чыноўнікі міністэрства адукацыі доўга стукалі па кнопках калькулятараў і нарэшце падлічылі, колькі павінны плаціць бацькі за школьныя падручнікі для сваіх дзяцей.

Рэформа школьнай адукацыі на сённяшні дзень звялася толькі да аднаго канкрэтнага кроку – увядзення платы за карыстанне падручнікамі. Прычым адпаведныя сумы будуць браць ва ўсіх сярэдніх навучальных установах – агульнаадукацыйных школах, дзіцячых садках са школьнымі групамі, гімназіях, ліцэях і вучылішчах алімпійскага рэзерву (плата за мячы і лыжы пакуль не прадугледжваецца).

Гэта значыць, што за камплект падручнікаў, які выдаюць у школьнай бібліятэцы, патрабуецца заплаціць пэўную суму – у залежнасці ад таго, у які клас ходзіць вашае дзіця. Грошы неабходна аддаць да 1 кастрычніка, інакш школьніку давядзецца рыхтаваць хатнія заданні толькі ў бібліятэцы, ніводнай кніжкі дадому яму не дадуць. Пасля заканчэння навучальнага года ўсе падручнікі трэба будзе вярнуць.

Не трэба плаціць за падручнікі ў спецыялізаваных школах і інтэрнатах, класах для дзяцей з недахопамі разумовага і фізічнага развіцця, а таксама ў школе лагера „Зубраня" на Нарачы. Акрамя таго, плата не бярэцца з тых сем'яў, дзе сукупны даход на члена сям'і ў месяц не перавышае трох мінімальных зарплат, і з бацькоў-інвалідаў. Бясплатна могуць вучыцца і дзеці-сіроты. Для сем'яў, дзе ў школу ходзіць трое або больш дзяцей, кошт карыстання падручнікаў зніжаецца на 50%.

У пачатку восені, калі дзіця ідзе ў школу, у многіх сем'ях звычайна бывае туга з грашыма: адпускныя патраціліся, а да новай зарплаты яшчэ трэба дажыць. Таму, плануючы бюджэт, варта прадугледзець і выдаткі на школьныя падручнікі. Як вызначана ў „Палажэнні аб парадку спагнання платы за карыстанне падручнікамі і вучэбнымі дапаможнікамі", для першакласніка сума складзе 130.900 рублёў. Для другога класа кніжкі на год каштуюць крыху менш – 101.200 руб., для трэцяга – 94.500. Найменшыя выдаткі чакаюць бацькоў, чые дзеці пойдуць у чацвёрты клас – 74.200 руб. Пачынаючы з пятага класа (114.500 руб.) цана ўзрастае, у сёмым класе пераадольвае рысу ў 200 тысяч і для выпускнікоў складае 294.500 рублёў.

**Алесь САДОЎСКІ. („Свабода").**

● КРЫМІНАЛ

# Напад на канваіраў

У мінулую нядзелю на чыгуначнай станцыі Баранавічы-Палескія разыграўся дэтэктыў.

У 10 гадзін 20 хвілін спецыяльны вагон, у якім перавозілі 66 зняволеных у Івацэвіцкую папраўча-працоўную калонію, падчапілі да цягніка Масква–Брэст. Калі ён крануўся з месца, адзін асуджаны папрасіўся ў туалет. Як толькі часавы адчыніў дзверы, асуджаныя кінуліся на яго. Выкарыстоўваючы нажы і заточкі, злачынцы нанеслі шматлікія цялесныя пашкоджанні каравулу. Начальнік яго, старшы сяржант звыштэрміновай службы А. Копанцаў, дзейнічаючы па статуту, першым прымяніў зброю. Схватка адбывалася ў доўгім і вузкім калідоры вагона. Таму кулі рыкашэтам траплялі і ў сваіх.

У выніку нападу адзін са злачынцаў забіты на месцы, двое ад атрыманых раненняў памерлі ў бальніцы і двое атрымалі агнястрэльныя раненні і змешчаны на лячэнне.

З асабовага саставу каравула пацярпелі пяцёра ваеннаслужачых.

Следства вядзе ваенная пракуратура.

**Л. САШЫН.**

● ЗДАРЭННІ

# Жыццё не радуе?

Пахаванне за пахаваннем дзвюх жанчын сталага ўзросту здарылася ў Аляксейках. Адна атруцілася сурагатам гарэлкі, другая – павесілася. Шкада, што так не па-людску жанчыны пакінулі гэты свет.

**(Наш кар.).**



**Выказваем шчырае і глыбокае спачуванне Міраноўскаму Івану Мікалаевічу з прычыны напаткаўшага яго гора – заўчаснай смерці брата ВАСІЛЯ.**

**Калектыў аддзялення хуткай дапамогі Івацэвіцкага раённага тэрытарыяльнага медыцынскага аб'яднання.**


Газета выдаецца на беларускай і рускай мовах. Набіраецца ў Івацэвічах, друкуецца ў Баранавіцкай друкарні (г. Баранавічы, вул. Савецкая, 80). Выходзіць два разы на тыдзень: у сераду і суботу.

Фармат 420х300 мм. Аб'ём – 1,5 друк. аркуша.

Падпісана да друку 17 ліпеня ў 14.00.

Заснавальнікі У. А. Кудзінаў, А. М. Басалай.

Газета зарэгістравана ў Дзяржаўным камітэце РБ па друку. Пасведчанне № 694.

Рэдактар Лідзія ЦАЛУЙКА.

НАШ АДРАС: 225250, г. Івацэвічы, вул. Дзяржынскага, 30, рэдакцыя „Газеты для вас". Тэлефон 2-12-29.




Тыраж 1.100 экз. Заказ № 1652.